

К. Е. ВАРАШЫЛАЎ

сярод луганскіх піянераў.

1927 г.

4 лютага споўнілася 60 год Кліменту Ефрэмавічу Варашылаву. Усе вы, рэбята, ведаеце і моцна любіце першага маршала Совецкага Саюза, вернага саратніка Леніна і Сталіна, выдатнейшага палкаводца Чырвонай Арміі—таварыша Варашылава.

Усё сваё жыццё з юнацкіх год Клімент Ефрэмавіч прысвяціў рэволюцыйнай барацьбе за справу рабочага класа, за комунізм.

Клімент Ефрэмавіч Варашылаў з'яўляецца адным з першых арганізатараў Чырвонай Арміі. Усе вы рэбята, чулі пра гераічную Конную Армію. Яна пакрыла сябе векапомнай славай у баях з ворагамі нашай радзімы. А арганізаваў гэту Армію і камандаваў ёю ў баях таварыш Варашылаў сумесна з таварышам Будзённым пад кіраўніцтвам вялікага Сталіна.

Колькі страху нарабіла Конная Армія варожым войскам! Як ураган налятала яна на ворагаў і знішчала іх. І ва ўсіх гераічных бітвах на чале чырвоных ляцеў на сваім ліхім кані любімец байцоў і камандзіраў Варашылаў Клім.

Пасля грамадзянскай вайны таварыш Варашылаў пад кіраўніцтвам любімага Сталіна няспынна працаваў над умацаваннем магутнасці Чырвонай Арміі і ўсёй нашай соцыялістычнай дзяржавы.

Выпеставаная ім Чырвоная Армія разграміла японскіх самураяў, белафінаў, дапамагла вызваліцца ад панскага гнёту працоўным Заходняй Беларусі, Заходняй Украіны, Бесарабіі, Паўночнай Букавіны, Літвы, Латвіі і Эстоніі.

Клімента Ефрэмавіча Варашылава добра ведаюць і моцна любяць працоўныя ўсёй нашай краіны і ўсяго свету.

За адвагу ў баях і самаадданую працу на карысць радзімы таварыш Варашылаў узнагароджан чатырма ордэнамі баявога Чырвонага Сцяга і двума ордэнамі Леніна, ганаровай зброяй і мае рад іншых узнагарод.

У сувязі з шасцідзесяціггоддзем з дня нараджэння за выдатныя заслугі ў справе будавання большэвіцкай партыі і совецкай дзяржавы, у справе арганізацыі і ўмацавання Чырвонай Арміі Клімент Ефрэмавіч Варашылаў узнагароджан яшчэ адным, трэцім, ордэнам Леніна!

Увесь совецкі народ вітаў таварыша Варашылава з яго шасцідзесяціггоддзем. Ён атрымаў прывітанні ад ЦК ВКП(б) і СНК СССР, ад Выканаўчага Камітэта Комуністычнага Інтэрнацыянала і многа, многа іншых.

Палкае прывітанне любімаму Варашылаву ад чытачоў і рэдакцыі журнала „Іскры Ільіча“ і шчырае пажаданне яму доўгія, доўгія годы жыць і працаваць на карысць нашай вялікай радзімы.

ІСКРЫ ІЛЬІЧА
ОРГАН ЦК ЛКСМБ

ШТОМЕСЯЧНЫ ЖУРНАЛ ДЛЯ ВУЧНЯЎ МАЛОДШЫХ КЛАСАЎ
ЛЮТЫ 1941 год. № 2.
Год выдання—трынаццаты.





# Аб Чырвонай Арміі і яе героях





Гуляючы ў „вайну", кожны з вас, рэбяты, хоча быць „чырвоным". І ніхто не хоча быць „белым" або „беляком", як многія гавораць. І гэта зразумела. Кожны хоча быць дужым, храбрым і ніхто не хоча быць слабым, бітым.

Чырвоны баец—самы храбры і свядомы баец. Чырвоная Армія—самая магутная, гераічная армія ў свеце.

Яна нарадзілася ў лютым месяцы 1918 года. Арганізатарамі Чырвонай Арміі з'яўляюцца Ленін і Сталін, іх баявыя таварышы.

У той час краіна была зруйнавана вайной. Армія была дрэнна ўзброеная. З усіх бакоў насядалі ворагі. Але Чырвоная Армія была непахісна. Яна адбіла ўсе атакі, перамагла лютых ворагаў. Сам таварыш Сталін, наш дарагі правадыр, быў на франтах і кіраваў баявымі аперацыямі, вучыў чырвоных байцоў ваеннаму майстэрству.

Многія з вас былі ў кіно, глядзелі карціну „Чапаеў". Памятаеце, як ён, нібы той ураган, налятае са сваёй конніцай і разбівае белых? Памятаеце, як ён гаварыў:

— Чапаеў у баю не адступае!

І гэта праўда. Чапаеў у баях ніколі не адступаў. Белыя ад яго ўцякалі, як зайцы. А такіх храбрых і слаўных палкаводцаў як Чапаеў—многа. Вы напэўна чулі пра Фрунзе, Шчорса, Катоўскага, Пархоменка... Усе яны былі гразой для ворага. Слава храбрым палкаводцам, якія змагаліся за лепшае жыццё, за наша шчасце!

У суровых баях нарадзіліся такія мужныя, таленавітыя і бясстрашныя палкаводцы, як першы маршал Савецкага Саюза Клім Варашылаў, маршал СССР Сямён Будзённы, Маршал і Герой Савецкага Саюза Нарком абароны СССР Сямён Цімашэнка.

Таварыш Цімашэнка геройскі ваяваў з белафінамі. Былі вялікія маразы, страшэнная завіруха. Вы ў гэты час спакойна сядзелі ў цёплых хатах, а нашыя чырвоныя байцы, наш палкаводзец таварыш Цімашэнка са зброяй у руках абаранялі наш спакой, нашу радасць, нашу любімую Радзіму.

А яшчэ, дзеці, наша Чырвоная Армія называецца—вызваліцельніцаю. Яна вызваліла нашых братоў і сясцёр па класу—працоўных Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны ад польскіх паноў.

Чырвоная Армія дапамагла таксама вызваліцца ад панскага прыгнёту і працоўным Бесарабіі, Паўночнай Букавіны, Літвы, Латвіі і Эстоніі.

Вызваленчым паходам у Бесарабіі кіраваў таварыш Цімашэнка. Яго паслала наша комуністычная партыя, паслаў таварыш Сталін. І таварыш Цімашэнка са славай справіўся з даручанай справай. Чырвонае войска, пад яго камандай, назаўсёды вызваліла працоўных ад панскай няволі. У гэтыя-ж радасныя дні таварыш Цімашэнка заехаў у сваю родную вёску Фурманаўку, Акерманскага павету, што ў Бесарабіі. Тут ён нарадзіўся і вырас.



Ад старога да малага вышлі сустракаць свайго земляка. Вось было радасці! Цімашэнка спаткаўся са сваім родным братам Яфімам, са сваімі сябрамі па школе. Землякі ад радасці спявалі народныя песні, танцавалі свае малдаўскія танцы.

Таварыш Цімашэнка выступіў з прамовай перад аднавяскоўцамі на мітынгу. Ён сказаў, што калі вораг паімкнецца нарушыць граніцы радзімы, то Чырвоная Армія будзе біць яго так, як біла японскіх самураяў, як біла белафінаў, як біла польскіх паноў.



Усе дзеці сяла Фурманаўкі вышлі на вуліцу і слухалі земляка—Маршала і Героя Савецкага Саюза Наркома абароны таварыша Цімашэнка. Дзеці прымервалі чырвонаармейскія шлемы з чырвонымі зоркамі і кожны хацеў быць чырвоным байцом.





# Наша армія магутна...

*Я. Журба* Рыс. М. Свяцкага

Наша армія магутна,
Роўнай ёй нідзе няма.
Ёй не грозны вораг люты
І не страшна ёй вайна.

Маем танкі і гарматы—
Ёсць чым ворагаў знішчаць,
І мацнее з кожным годам
Наша доблесная раць.

Нашы слаўныя пілоты—
Быццам сокалы ляцяць;
Караблі ў совецкіх морах
Грознай сілаю шумяць.

Мы чужой зямлі не хочам,
Не уступім і сваёй.
Хай-жа помніць гэта вораг,
Хай не страшыць нас вайной.

Шмат разбіта цёмнай сілы,
Што нясла няволю нам...
Слава Арміі Чырвонай
І яе правадырам!






*Пятрусь Броўка*

Рыс. М. Свяцкага

Пра флот,
Пра наша мора
Мы слухалі не раз,—
На крэйсеры „Аврора"
Таварыш ёсць у нас.

Праводзілі мы з вёскі
Антона юнаком,
А ён вярнуўся з войска
Адважным мараком.

Былі мы вельмі горды,
Як ён размовы вёў
Пра слаўныя паходы
Совецкіх караблёў.

Як ломячы ільдзіны
Спаўнялі свой загад,
Як беглі белафіны
Пад грозны гул гармат.

Праходзілі таросы,
Знішчалі іх нашчэнт,
Бо нашыя матросы
Найлепшыя на свет.

Не засланілі сцюжы,
Ні міны пэўны шлях,—
З іх кожны целам дужы
І здольны ў баях.

Мы знаем, строй флатылій
Мацнее з году ў год!
І самі мы рашылі
Пайсці ў чырвоны флот.



Пайсці на абарону
Совецкае зямлі,—
Таварышу Антону
Мы слова ў тым далі.

Каб лепей спадзявацца,
Што возьмуць на мары—
Мы сталі рыхтавацца
Адразу з той пары.

Плывем без перадышкі
Па некалькі гадзін,
То ластаўкамі з вышкі
Мы скачам як адзін.

На чоўнах мы заўзята
Праносімся стралой,
Мы ходзім па канату
Над самай глыбінёй.

З няшчасця добра самі
Умеем ратаваць,
Вайсковымі сцяжкамі
Сігналы падаваць.

Мы не баімся зморы,
Ні розных перашкод—
Таварыша з „Авроры"
Чакаем цераз год.

Хай скажа не на жарты,
Ці добра мы раслі?
Ці здольны мы,
Ці варты
Ісці на караблі?!






# ЯНКА РЫБАК

Т. Гарбуноў (КАЗКА) Рыс. М. Свяцкага

У самага сіняга мора жыў Янка-рыбак. Была ў Янкі маці-старуха. Янка лавіў невадам рыбу, а маці яе прадавала. Так яны і жылі. Хата ў Янкі была старэнькая. Ніяк Янка не мог сабраць грошай, каб купіць новую лепшую хату. Была ў Янкі нявеста. Звалі яе Марылей.

Паехаў аднойчы Янка ў мора і закінуў сетку-невад. Выцягнуў сетку, а яна—пустая, толькі адна маленькая рыбка трапеча. Стаў Янка рыбку вынімаць з сеткі і сваім вачам не верыць. Рыбка—залатая.

Глядзіць Янка на рыбку і яна на яго чырвонымі вочкамі пазірае. А потым загаварыла гэта рыбка:

— Пусці мяне, рыбак Янка, у мора!

— Як-жа я цябе пушчу, мне за цябе за такую дзіковіную рыбёшку купцы многа грошай дадуць. За грошы я пабудую новую хату, а пасля і жанюся на сваёй Марылі.

Рыбка не жартам спалохалася і кажа:

— Пусці мяне, Янка, у сіняе мора, а грошай я табе дам столькі, колькі табе патрабуецца. Вось табе кальцо, яно грошы здабывае.

Надзеў Янка на палец кальцо і бачыць пакаціўся срэбраны рубель. Зняў Янка кальцо і зноў надзеў і яшчэ пакаціўся рубель. Гэтак Янка прарабіў некалькі разоў і срэбра сабралося цэлая куча.

Тады ён і кажа маленькай той рыбцы:

— Ну ідзі сабе, красуня, у сіняе мора і жыві там сабе на прасторы. А мне на новую хату ўжо сродкаў хопіць.

Рыбка паплыла. А Янку нецерпіцца. Зноў пачынае ён знімаць і надзяваць кальцо. Так ён рабіў гадзіну, другую. Працаваў Янка да таго часу, пакуль лодка срэбрам не перапоўнілася і ад цяжару тануць пачала. Добра, што Янка плаваць умеў, а то давялося-б яму векаваць на дне марскім.

Выбраўся Янка на бераг і злуе на сябе: «Вось дурань які, шчасце ў руках было ды не змог утрымаць... Усё згубіла зайздрасць мужыцкая».

Засумаваў наш Янка. Пеніцца сярдзітае мора. З сумам пазірае Янка на светазарны закат сонца і прыслухоўваецца да марскога прыбоя. Чуе ён што далёка ў мора яго нехта кліча:

— Янка, Янка, забяры сваё кальцо!

Бачыць Янка-рыбак, што плыве да яго рыбка. Даплыла яна да берага і выкінула на марскі пясок залатое кальцо.

Падзякаваў рыбку Янка і рад-радосенек, пабег да сваёй рыбачай хаты.

Выкінуў Янка з вялікай скрыні ўсе пажыткі і давай над адкрытай скрыняй знімаць і адзяваць кальцо. Хутка поўная скрыня накапілася грашыма. Убачыла маці Янкі такое багацце і рукамі ад радасці ўсплёснула:

— Вось цяпер,—кажа яна,—будзе ў нас новая хата і, нарэшце ты, Яначка, ажэнішся на Марыле.

— О, як-бы не так, мамуся,—адказвае Янка,—цяпер не хачу я жаніцца на Марыле, а хачу жаніцца на панне, або на царэўне. Хто з іх больш спадабаецца, на той і ажанюся. Цяпер я багаты і буду шукаць сабе роўню.

Заплакала старуха, шкада ёй Марылі. Добрая дзяўчына Марыля, працавітая, але Янку не супярэч. Ён упарты і зробіць на сваім.

Пайшоў Янка з дому. А яго старуха-маці ўзяла да сябе бедную дзяўчынку Марылю. І сталі яны ўдвох працаваць.

Многа прайшло год. За гэты час Янка пабываў у розных месцах. Дайшоў ён да самага Балтыйскага мора. Увайшоў у горад і бачыць такі сумны малюнак: усе плачуць, сумуюць, Янка і пытае:

— Чаго слёзы людзі добрыя льюць?

А яму адказваюць:

— Ваяваў наш кароль з другім каралём і прайграў вайну. Вось цяпер варожы кароль і патрабуе нагрузіць усе караблі срэбрам. Па ўсёй краіне сабралі ўсё срэбра і нават палавіну не запоўнілі караблёў варожага караля. Зараз гэты кароль патрабуе, каб замест срэбра аддаць яму ўсіх дзяўчат краіны. І даў тры дні тэрміну. Вось чаму ўсе плачуць і сумуюць.

Янка і кажа натоўпу:

— Якое глупства! Няхай ваш кароль выдасць за мяне сваю дачку. А я ўсе караблі срэбрам напоўню. А сабе яшчэ больш срэбра застанецца.

Гэтыя словы далажылі каралю. Той загадаў паклікаць у палац Янку. Умовіліся на тым, як толькі Янка здабудзе патрэбную колькасць срэбра і адплывуць варожыя караблі, неадкладна будзе спраўлена вяселле.

Роўна праз тры дні ўсе варожыя караблі былі нагружаны срэбрам. Народ лікаваў. Янку адвялі ў каралеўскім палацы добрыя пакоі. Жыве тут ён месяц—два і ўсё пытаецца, калі будзе вяселле. Каралеўна тым часам выведала ў Янкі пра яго цудоўнае кальцо і пра тое, як ён здабывае грошы. Нарэшце Янка ў падарунак аддаў каралеўне сваё кальцо.

Калі ўсяго гэтага дабілася каралеўна, яна пайшла да свайго бацькі караля і заявіла:

— Не хачу каб рыбак ажаніўся на мне, на каралеўне. Яму дарэчы будзе простая сялянка. Трэба яму гэта растлумачыць, а калі не згодзіцца, дык трэба яго забіць.

Кароль вельмі быў рады гэтай прапанове. Паклікаў ён салдат і даў загад адвесці Янку ў лес і там забіць.



Павялі Янку ў лес. Але салдаты былі добрыя сялянскія хлопцы. Яны кажуць:

— Мы цябе, Янка-рыбак, забіваць не будзем. Ідзі сабе на волю і не думай, што каралеўна роўня рыбаку.

Замест Янкі салдаты забілі ваўка і воўчае сэрца прынеслі каралеўне.

Кінуў кароль сэрца сабакам, а сабакі пачуўшы пах ваўка, паджалі хвасты і збеглі. Тут кароль і кажа народу:

— Глядзіце, які гэта быў падлец, Янка-рыбак. Ад яго сэрца нават сабакі ўбягаюць.

Так ён думаў апраўдаць забойства рыбака.

А Янка тым часам блукае па лесе. Аднойчы ён пачуў вялікі шум і піск. І калі ўбачыў, што адбывалася на паляне, спалохаўся вельмі.

На вялікай паляне тры чорта-лесавіка біліся паміж сабой. А ля іх ляжала вялікая куча золата. Чэрці-дурні ніяк падзяліць не маглі вялікую кучу золата.

Янка ўбачыў золата і рашыў умяшацца ў спрэчку чарцей, хоць і боязна было.

— Вы,—кажа Янка,—паслухайце маей парады. Я навучу вас як падзяліць золата. Толькі за гэта прашу даць плату добрую, таму, што мне трэба будаваць новую хату. Чэрці яму і кажуць.

— Добра, чалавеча!

Першы лесавік даў Янку кавёр-лятун.



Калі яго расцелеш і сядзеш задам наперад, то паляціш туды, куды захочаш. Другі лесавік даў Янку такую шапку, калі яе адзенеш задам наперад, то ніхто цябе не ўбачыць, а ты ўсіх будзеш бачыць добра. Трэці лесавік даў Янку боты-скараходы. Крок ступіш у гэтых ботах і адразу пройдзеш 7 кілометраў. Куды захочаш, туды і паскачаш у гэтых ботах.

Згадзіўся Янка-рыбак на такую плату. Разаслаў ён кавёр, надзеў боты скараходы, узяў шапку-невідзімку. А золата лесавікі ўсё перанеслі на кавёр.

Вось Янка ім і раіць:

— Золата падзяліце такім парадкам: адзін з вас няхай бяжыць на поўнач і прынясе карэльскую бярозу, другі няхай бяжыць на Далёкі Усход і прынясе сібірскі кедр, трэці няхай бяжыць на поўдзень і прынясе дрэва-чынару. Хто раней вернецца на гэтае месца, той і няхай забірае ўсё золата.

Пабеглі лесавікі ў розныя бакі, аж пяткі заблішчэлі. А Янка сеў на кавёр, забраў золата і паляцеў да каралеўны.

Вярнуліся лесавікі і бачаць ашукаў іх Янка. Зноў пачалі яны спрачацца, ды біцца. Пачуў стары лесавік іх крыкі, выслухаў у чым справа і вынес такі прыгавор:

— Калі вы такія дурні вялікія, што вас ашукаў чалавек, дык ссылаю вас за гэта ў Палескае балота навекі-вечныя.

Янка-рыбак прыляцеў на каўры-летуне ў той горад, дзе жыла каралеўна. Грошы і кавёр закапаў у зямлю, а сам надзеў шапку-невідзімку і ў ботах-скараходах закрочыў у палац.

У каралеўскім палацы быў бал. Госці тут былі важныя: лысыя генералы, міністры, купцы, папы ды ксяндзы дародныя. Янка-рыбак ўсеўся ля караля. Нальюць служкі віно каралю, а Янка нябачна возьме ды вып'е. Усе п'юць, а ў караля пустая чарка. Злуецца кароль на сваіх служак і патрабуе наліць сабе віно. Служкі зноў наліваюць. А Янка зноў выпівае каралеўскую чарку. Нарэшце, Янка бярэ караля за бараду і давай вадзіць яго вакол сталоў па вялікай зале. Госці ўсе перапалохаліся. Ніхто не ведае, што здарылася з каралём. А Янка ўсё водзіць яго вакол сталоў і за бараду падзёргвае.

Ніякія дактары не могуць даць рады каралю. Кароль і кажа:

— Гэта відаць дух Янкі-рыбака мяне мучае.

Тут Янка адкрываецца каралю.

— Я,—гаворыць ён,—не дух, а сапраўдны жывы Янка-рыбак. Ажаніце мяне на сваёй дачцы-каралеўне і мы квіты будзем.

— Добра,—кажа кароль,—бяры сабе каралеўну. Але адна ўмова будзе—з мужыкамі з гэтага дня знацца не трэба, ты зараз каралеўскі зяць.

Падрыхтавалі вяселле. Янка забыў усю крыўду. Янка падумаў, што цяпер ён сапраўды каралеўскі зяць. Расказаў Янка каралеўне пра кавёр-лятун, пра шапкуневідзімку, толькі пра боты-скараходы забыў расказаць.

Перад пачаткам вяселля каралеўна і кажа Янку:

— Хачу пераканацца ці праўду ты мне казаў, што твой кавёр лятае. Я ведаю такі дрымучы лес, у якім калі хто заблудзіцца, дык не выйдзе без праважатых. Паляцім туды, мажа хто дапамогі патрабуе.

Згадзіўся Янка. Паляцелі яны ў той лес. Вакол усё хараша. Неба чыстае. Сонейка ярка свеціць. Жаўранкі шчабечуць, качкі кракаюць, ручайкі журчаць. Вось і дрымучы лес. Янка зацікавіўся, усё разглядае. Тут каралеўна бачыць, што настае зручны момант. Яна давай крычаць:

— Глядзі, Янка, што гэта за дзіва ў лесе робіцца.

Нагнуўся Янка ніжэй, каб паглядзець, што робіцца ў лесе, а каралеўна таго і чакала. Штурхнула яна Янку што было сілы і паляцеў ён кубарам уніз.

Добра што папаў рыбак у возера Нарыч. Выплыў Янка на бераг, мокры, нібы курыца пасля дажджу. Цяпер толькі здагадаўся колькі глупства нарабіў. Раззлаваўся ён на каралеўскія ўчынкі і стаў абдумваць, як-бы яму адпомсціць каралю і каралеўне ды вярнуць свой кавёр-лятун і шапку-невідзімку, якая там засталася.

Ідзе Янка па лесе і думу думае. Бачыць ён пад вялікім зялёным дубам касцёр паламнее. А вакол кастра многа народу. Падышоў Янка паздароўкаўся.

— Што ты за чалавеча будзеш,—спыталі ў яго тыя людзі.

Янка-рыбак усё па парадку і расказаў. А людзі тыя і без таго былі злыя на караля. Кароль многа зла ўчыніў народу. Падаткамі ды рознымі паборамі разбурыў ён многа сёл і гарадоў. Паслухалі яны рыбака і кажуць яму:

— Адкрыем табе Янка сакрэт. Мы ў гэтым лесе знайшлі такую дубінку, што па нашаму ўказу яна сама б'е. І так б'е, што жывога месца не пакідае. Не дубінка, а самабой. Толькі дапамажы нам Янка выбрацца з гэтага лесу дрымучага.

Хутка Янка ў сваіх ботах-скараходах знайшоў выхад з лесу. Вывеў ён людзей і паказаў ім шлях да каралеўскага палаца. Раззлаваны народ прагнаў таго караля і яго служкаў.

Тут наш Янка абразуміўся, пабудаваў ён сабе новую хату, ажаніўся на Марыле і добра жывуць.



# у р м!

Рыс. А. Волкава



Рэбяты! кожны з вас жадае хутчэй падрасці і пайсці ў Чырвоную армію, надзець шапку з чырвонай зоркаю і абараняць сваю радзіму. А цяпер трэба рыхтавацца, каб быць дужым і смелым...

... Дзеці адной школы ў выхадны дзень парашылі пагуляць у вайну.

... Камандзір лыжнага атрада даў загад з боем забраць крэпасць і захапіць сцяг. Абаронцы крэпасці добра падрыхтаваліся. Гранатамі ў іх былі снежкі.

Хто з іх пераможа—нельга сказаць. У каго будзе больш храбрасці, смеласці і ўмення—той і пераможа...

# Падводная лодка

С. М. Лазінскі

Рыс. Б. Ліндэнбаум.



З даўніх часоў пытлівы чалавечы розум імкнуўся пранікнуць у тайны марскіх глыбінь.

Дакладна невядома, калі чалавек упершыню вынайшаў прыборы, дазволіўшыя яму апусціцца на дно марское і паглядзець, што там робіцца, але ўсё-ж вядома, што прыборы гэтыя чалавек вынайшаў больш 2 000 год таму назад.

Што яны тады ўяўлялі сабою?

Гэта былі як-бы звычайныя вялікія шклянкі, пастаўленыя дагары дном ці проста каўпакі. Такі прыбор апускаўся на вялікім ланцугу ў ваду. Чым даўжэй быў ланцуг, тым глыбей можна было апусціць яго. Чалавека садзілі ў сярэдзіну гэтага каўпака і ён праз спецыяльныя вокны мог наглядаць акаляючае асяроддзе. Вы адразу зададзіце пытанне—як-жа чалавек мог там быць, калі вада зойдзе ў нічым не закрыты знізу каўпак і затопіць яго?

Але давайце рэбяты трошкі паразважаем. Ці можа вада зайсці ў месца, якое занята чым-небудзь іншым? Безумоўна не. Вада, як і іншыя вяшчэствы ці прадметы, можа быць толькі ў свабодным месцы, пустым, гэта значыць нічым не занятым. А ці пусты наш каўпак, які апускаецца ў ваду? Не. Ён запоўнен паветрам, якое і не дае вадзе заняць яго. У гэтым, рэбяты, вы можаце ўпэўніцца, калі возьмеце звычайную шклянку і апусціце яе роўненька ў ваду ўверх дном. Вы ўбачыце, што частка шклянкі вадою не запоўніцца. Вось у гэтым, незапоўненым вадою месцы, і знаходзіцца паветра. Калі гэтую шклянку павялічыць або апусціць у ваду замест яе вялікі каўпак, то месца незанятае вадой будзе таксама значна большым і ў ім зможа свабодна размясціцца чалавек. Каб чалавек мог нармальна дыхаць праз пэўныя прамежкі часу ў каўпак праз спецыяльна прыстасаваны гумавы шланг накачваецца паветра.



Такім быў першы прыбор, які дазволіў чалавеку апусціцца на марское дно. Называюць яго вадалазным каўпаком.

Але вадалазны каўпак не ёсць яшчэ падводная лодка, бо рухацца ён мог толькі ўверх і ўніз, ды і то пры дапамозе людзей, знаходзячыхся на паверхні вады. Людзям патрэбна была сапраўдная падводная лодка, якая магла-б рухацца не толькі ўверх і ўніз, а ва ўсе бакі і пры тым самастойна.

Людзі пачалі ўсё глыбей і глыбей вывучаць прыроду.

Нарэшце ў 1620 годзе галандскі ўрач Карнеліус Ван-Дрэбель пабудаваў першую ў свеце маленькую падводную лодку. Яна была зроблена з дрэва і абцягнута скурай. Перасоўвалася яна пры дапамозе вёслаў, як на паверхні вады, так і пад вадою.



У 1776 годзе амерыканец Давід Бешнель пабудаваў новы від падводнай лодкі. Яна была ўжо металічнай і мела форму яйка. Назвалі яе «чэрапаха».

Другі амерыканец, таленавіты інжынер Роберт Фультон прапанаваў для падводнай лодкі сігарападобную форму і ўвёў некаторыя іншыя ўдасканаленні.

Апускацца ўніз і падымацца ўверх гэтыя лодкі маглі ўжо самастойна. Як-жа яны гэта рабілі?

У кожнай падводнай лодцы былі і зараз ёсць спецыяльныя камеры, у якія можна набіраць ваду, ці выпускаць яе па жаданню камандавання лодкі. Калі вада набрана ў камеры, лодка становіцца цяжкай і апускаецца ўніз—пад ваду. Калі-ж вада выпускаецца, лодка становіцца лягчэй і падымаецца ўверх.

Пры дапамозе спецыяльнага рэгуліравання колькасці вады ў камерах можна апускацца на патрэбную глыбіню.



Адмоўным бокам усіх гэтых відаў падводных лодак з'яўлялася тое, што рухацца яны маглі толькі пры дапамозе сілы чалавека, а не пры дапамозе машын.

Наступіў XIX век. З'явіліся чыгунка, параход і іншыя машыны, якія рухаліся пры дапамозе спецыяльных рухавікоў. Сталі думаць, як механізаваць і падводную лодку.

Першая ў гісторыі падводная лодка, якая магла рухацца пад вадой пры дапамозе электрычнасці была пабудавана рускім вынаходцам Джэвецкім. Гэта было ў 1878 годзе. Лодка гэтая рухалася пад вадою з хуткасцю 7 кілометраў у гадзіну. Але яна была забыта. Царскі ўрад не падтрымаў выдатнай прапановы.

Праз некалькі год у Стакгольме была пабудавана паравая падводная лодка, але і яна не знайшла прымянення.

Значнай перашкодай у выкарыстанні гэтых відаў лодак была нязручнасць іх рухавікоў.

Калі быў вынайдзен больш зручны для карыстання рухавік на цяжкім паліве (нафта), тады пачалі хутка развівацца і падводныя лодкі.



Яны ператварыліся з прыбора для нагляданняў падводнага жыцця ў грозную марскую зброю.

Кожная марская дзяржава ў складзе свайго флота налічвае зараз вялікую колькасць падводных лодак.

На ўзбраенні нашага савецкага флота, побач з другімі ваеннымі караблямі, вялікую і пачэсную ролю ў ахове марскіх граніц адыгрываюць і падводныя лодкі. Яны паказалі сваю сілу ў баях з белафінамі і заўсёды гатовы адказаць ворагу двайным ударам на ўдар па першаму заклiку партыі, савецкага ўрада і таварыша Сталіна.




# Не хачу гуляць з такім

*Аркадзій Гейне*

Рыс. М. Карпенко

Падарылі мне каня,
Ды зусім не рады я.
Не хачу гуляць з такім,—
Гэта-ж і не конь зусім!
Палка з конскай галавой,
А нагі—дык ні адной.
Не седланы,
Не стрэмяны,
Ні кауры,
Ні буланы,
Проста так... падмаляваны.
Нават сорамна рэбят,—
Як я выйду на парад?
Як на ім паеду
Я к Крэмлю Чырвонаму?
Як-жа пакажуся
Маршалу Будзённаму?



Не хачу гуляць з такім,—
Гэта-ж і не конь зусім.
Мне патрэбен конь сапраўдны,
Каб у форме у парадна́й
Мог праехаць я ў страю
І імчацца у баю.



# МЫ ВАЕННЫЯ

## Я жадаю быць пагранічнікам

Мне вельмі падабаецца ваенная справа. Я люблю чытаць аб Чырвонай арміі і яе правадырах, таварышах Варашылаве, Будзённым, Фрунзе, Чапаеве, Катоўскім і іншых.

Летась, калі я быў у піонерскім лагеры, добра вывучыў вінтоўку і процівагаз. У ваенных гульнях я заўсёды быў камандзірам і ніколі не праігрываў „вайну“.

Цяпер я займаюся ў стралковым гуртку пры палацы піонераў. Умею нядрэнна страляць.

У школе вучуся добра. Калі я выраступ— абавязкова буду пагранічнікам.

Рома Шэўчэнка, 12 год.
Мінск, 32-я школа.

## Засвяціла ясна зорка

Засвяціла ясна зорка
З пяці сваіх вуглоў,
І паны ад нас удралі
Адракліся ад двароў.

Як паночкі уцякалі
Рукавічкі пагублялі,
Рукавічкі і партфелі,
Як шалёныя ляцелі.

Дзякуй Арміі Чырвонай
І яе правадырам,
Што паноў ад нас прагналі,
Надаелі-ж яны нам.

Валенцін Цытовіч,
Вілейская вобласць,
Жаркоўскі раён, Навасёлкаўскі сельсовет.

## У дазоры



Малюнак Фадзея Кушнярова
вучня Агароднe-Гомельскай
школы. Добрушскага раёна.




М. Лупсякоў *Апавяданне* Рыс. М. Карпенка

Мне было тады дванаццаць год.

Жылі мы ў пасёлку, які зваўся Мышоўкай і знаходзіўся ён непадалёк ад шумлівага бору.

Наш двор невялікі: хата, навес і пуня.

Пад навесам начавалі куры з куранятамі—тут было іхняе седала.

І вось аднойчы раніцою маці сказала:

— Хтосьці з седала куранят крадзе. За дзве ночы аж пяцёра прапалі.

Бацька чысціў стрэльбу і абыякава адказаў:

— А каму яны патрэбны?

Маці раззлавалася з-за гэтай яго абыякавасці.

Тады бацька, шчоўкаючы курком стрэльбы, сказаў так:

— А вот я сёння зараджу сухім гарохам ружжо і пасцерагу ночку. Калі ўжо і сапраўды каму спадабаліся нашы куры, дык я яму пекану.

Усю наступную ноч ён наглядаў за седалам; на світанні мы пачулі ў агародзе моцны раскацісты стрэл. Я дык аж падскочыў на сваім ложку. «Пэўна, што бандыты,—думаў я,—кралі нашых курэй і зараз бацька з імі змагаецца». І мне стала страшна.

Але неўзабаве ў хату зайшоў бацька—жывы і непашкоджаны. Ён расказаў маці, што курэй крадуць совы. Вось толькі што адна прылятала. Бацька стрэліў па ёй са стрэльбы.

— Стралок, — нездаволена бурчэла маці.—У саву не папаў.

— Ды стрэльба-ж зараджана была не шротам, а звычайным гарохам,—апраўдваўся бацька.

І ўсю раніцу ў нашай хаце толькі і было гаворкі, што пра соў ды курэй... Я ўсё гэта слухаў і быў вельмі нездаволены, што бацька і маці ледзь не сварацца.

Ва ўсім вінаваты совы. Ну, і раззлаваўся-ж я на іх! Адразу вырашыў ісці ў лес шукаць савіны вывадак.

Пайшоў... Доўга блукаў між старых каржакаватых дрэў, заглядаў у дуплы. Пошукі мае скончыліся поспехам. Вечарам я нёс дадому чатырох маладых соў.

— Ага, папаліся,—радасна гаварыў я, сціскаючы іх у пале світкі.

Я падумаў: што мне зрабіць з імі? За-



біць—страшна, замарыць голадам—неяк непрыемна, а можа... можа ўтапіць іх у рэчцы?

І раптам мне стала шкада іх. Хоць і драпежнікі, а шкада. У хату я не зайшоў. Знайшоў пад навесам стары пачарнелы кошык, перавярнуў яго і пасадзіў туды соў. «Няхай яшчэ пажывуць,—вырашыў я.—А ўжо заўтра з імі абавязкова разлічуся». У гэтую-ж ноч бацька забіў драпежніка, што знішчаў курэй. У акрываўленай дзюбастай птушцы прызналі саву.

І тады я адважыўся. Забраў маладых соў і накіраваўся да рэчкі. Па дарозе мне сустрэўся Тарасік—мой аднакласнік. Разглядаючы птушак ён сказаў:

— Ого, совы! Куды-ж ты іх нясеш?

— Да рэчкі. Тапіць,—адказаў я.—Куранят ноччу крадуць. А з забітай савы давай зробім чучала. Яна ў мяне дома пад палацямі ляжыць...

Тарасік згадзіўся і мы пабеглі ўніз, да рэчкі.

Гэта было страшна, як мы тапілі гэтых бедных соў. Птушкі ірваліся з рук, а адна з іх, вельмі адважная і моцная, сваімі кіпцюрамі да крыві разарвала мне палец. Узлаваны, я пакруціў саву над галавой і з усяго размаху кінуў у раку. Птушка мякка шлёпнулася на пеністыя грэбні хваль. Абяссіленая, захлынаючыся, яна паплыла ўніз па плыні. На гэтым расправа і скончылася.

Стомленыя і злосныя вярталіся мы дадому. З пальца майго сачылася кроў, у Тарасіка была падрапана шчака і з яе таксама цякла кроў. Нам было няёмка і, каб апраўдаць сябе, я храбра сказаў:

— Вось як мы—гэтых соў! Больш не будуць красці куранят і мама з татам сварыцца не стануць...

Але ніякай бадзёрасці гэтыя словы мне не далі. Тарасік маўчаў...

Дзён праз колькі з забітай бацькам птушкі мы рабілі з Тарасікам чучала і да нас зайшоў настаўнік біялогіі Хрыстафор Вікенцьевіч. Ён жыў побач з намі.

— Пахвальна,—сказаў ён, узяўшы ў свае рукі чучала дзюбастай парыжэлай птушкі.—Вырашылі, значыць, гэтага каршака набіць пакляй?

— Каршака?—у адзін голас падхапілі мы.

Хрыстафор Вікенцьевіч паглядзеў на нашы здзіўленыя твары і сказаў:

— Ну, вядома-ж каршака. Чаго-ж вы так дзівіцеся?

— А ці крадуць совы курэй?—спытаўся Тарасік.

— Совы? Яны жывуць у дуплах дрэў і харчуюцца дробнымі сысунковымі, вельмі многа знішчаюць палявых мышэй, шкоднікаў — грызуноў. Сава — карысная птушка і курэй, вядома, яна не знішчае.

— Значыць, памылка,—падумаўшы, сказаў я.—Курэй краў гэты каршак, а не совы. Дык навошта-ж мы іх...

— Тапілі,—ледзь чутна выдыхнуў Тарасік.

А я ўспомніў тую моцную і адважную саву, што гэтак не хацела паміраць... успомніў і жаль агарнуў мяне.



# ДЛЯ МАЛЕНЬКІХ




Сядзіць мядзведзь на калодзе,
На дудзе іграе,
А ваўчышча-скрыпачышча
Смычком выцінае.
Медзвяжаты, ваўчаняты
Ім падпяваюць.






Пайшоў каток пад масток,
Злавіў рыбку за хвасток.
Пайшоў каток на таржок,
Купіў сабе піражок.








— Мышка, мышка! Дзе была?
— На рабоце.
— Што рабіла?
— Кросны ткала.
— Што зарабіла?
— Кусок сала.
— А дзе-ж сала?
— Кошка ўкрала.






— Добры дзень, рэбяты, я зноў прышоў да вас у рэдакцыю. Прышоў даведацца, хто адказаў на мае пытанні, рашыў задачы, адгадаў загадкі.

Мы падалі яму цэлую гурбу пісем, ён уважліва прагледзіў іх і сказаў:

— Добра, маладцы рэбяты! Многа ведаюць, але відаць не ўсе яшчэ прыслалі адказы, напэўна дзесьці ў дарозе пісьмы затрымаліся. Пачакаем яшчэ крыху...

— А пытанні да мяне ёсць?

— Есць, вось...

— Скажы нам дзядуля: «якая адлегласць ад Зямлі да Сонца, зорак і Луны?»

Дзед-Усёвед задумаўся, сеў за стол, доўга вылічваў і даў наступны адказ:

Ад зямлі да Сонца амаль 150 мільёнаў кілометраў. Чалавеку, які праходзіць 40 кілометраў у суткі, трэба было-б ісці 10.300 год, каб дайсці да Сонца. А кур'ерскі цягнік, які ідзе з хуткасцю 100 кілометраў у гадзіну, дасягнуў-бы Сонца праз 171 год. Зоркі ад нас значна далей Сонца. Самая блізкая да Зямлі зорка амаль у 300 тысяч разоў далей ад нас, чым Сонца.

Бліжэй за ўсіх да Зямлі Луна.—Адлегласць ад нас да Луны—384 тысячы кілометраў. Аэраплан, які ляціць з хуткасцю 400 кілометраў у гадзіну, дасягнуў-бы Луны на саракавыя суткі. Знарад з гарматы мог-бы даляцець да луны праз трое сутак і 15 гадзін. А пешаходу, які робіць 40 кілометраў у суткі, патрэбна было-б 26 год і 110 сутак, каб дабрацца да Луны.

Потым Дзед-Усёвед пакінуў вось гэтыя загадкі:

## Загадкі

Не куст, а з лістамі,
не кашуля, а пашыта.

Ем вугаль, п'ю ваду,
цягну абоз на сто калёс,
а завуся...

Прымасціўся на страсе,
яго слухаюць усе.
У паветры ловіць словы,
спевы, музыку, прамовы.

Жыве пад ганкам,
хвост абаранкам.

Аўсом не кормяць,
пугай не гоняць,
а як араць пачне—
сем плугоў вязе.

Чорны Івашка,
драўляная рубашка,
дзе носам павядзе—
след пакіне.

З крыллямі, а не птушка,
з сярпом, а не жняя,
з коламі, а не воз.

У шубе летам,
а зімой раздзеты.

Калматы, вусаты,
есці пачынае—
песенькі спявае.

Малы пузырок,
а ў ім аганёк.

Дзед-Усёвед абяцаў, што яшчэ прыдзе да нас паглядзець хто лепш за ўсіх умее адгадваць загадкі і рашаць задачы.

І яшчэ Дзед-Усёвед цікавіўся ці умееце вы маляваць. А калі умееце, дык адгадкі прышліце ў малюнках. Ён абяцаў, што за малюнкі, апрача двух ачкоў як за правільны адказ, дадаткова будзе залічваць ад аднаго да трох ачкоў у залежнасці ад якасці малюнкаў.

Дзед-Усёвед прасіў, каб пісьмы яму прысылалі па такому адрасу:

Горад Мінск.
Дом Друку.
Рэдакцыя журнала «Іскры Ільіча»
(Для Дзеда-Усёведа).

Адказны рэдактар Ф. Т. Канстанцінаў. Афармленне М. Свяцкага. Адрас рэдакцыі: МІНСК, ДОМ ДРУКУ. Тэл. 2-38-54.
Друкарня імя Сталіна, Мінск. 20.000 экз. Зак № 4054

Цана 30 кап.



Выхваляўся наш Сямён,
Што ён лыжны чэмпіён.



Ўсе таварышы стаяць,
На героя ўсе глядзяць.



Як прасунуўся на крок,—
Сам упаў і лыжы ў бок.



Дзеці мчацца ў перагон.
Ў снег зарыўся „чэмпіён".



З гурбы пяткі ледзь відаць,
Трэба хлопца выручаць.



К слёзам, сораму, бядзе—
Фанабэрства давядзе.